Гродна
№6 (464),
12 сакавіка 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# "Слова Жыцця" адзначае юбілей заснавання

**Ужо 20 гадоў мінула, як свет убачыў першы нумар дыяцэзіяльнай газеты. З гэтай нагоды рэдакцыя аб'яўляе фотаконкурс пад назвай "Я чытач «Слова Жыцця»".**

**Прапануем ахвотным крыху распавесці пра сябе, суправадзіўшы допіс асабістым фотаздымкам з экземплярам газеты. Прадстаўцеся (прозвішча і імя, месца жыхарства). Адкажыце, як даўно чытаеце газету і па якой прычыне, якія старонкі праглядваеце часцей, з задавальненнем, якія тэксты засталіся ў памяці і, адпаведна, чаму. Мажліва, нейкія думкі кранулі, падштурхнулі да разважанняў.**

**Найбольш цікавыя гісторыі і фотаздымкі будуць апублікаваны ў газеце і адзначаны прызамі.**

Фота на конкурс дасылайце **да 15 красавіка** на адрас рэдакцыі: **г. Гродна, вул. К. Маркса, 4** або на электронную скрыню **slowo.grodnensis@gmail.com.**

**Чытач, мы будзем вельмі рады з Табой пазнаёміцца!**

● працяг на с. 4–5

## Каляндар падзей

*13 сакавіка*
*4-ая гадавіна выбару Святога Айца Францішка на Пасад св. Пятра. Молімся за Папу, каб яго пастырская паслуга прыносіла шчодры плён.*

*19 сакавіка*
*Усебеларускі дзень "Карытас". У гэты дзень у святынях збіраюцца ахвяраванні на патрэбы дабрачыннай каталіцкай арганізацыі.*

*20 сакавіка*
*Урачыстасць св. Юзафа, Абранніка НПМ. Заахвочваем да малітвы ў інтэнцыі папы Францішка і Паўсюднага Касцёла.*

*25 сакавіка*
*Урачыстасць Звеставання Пана. Дзень святасці жыцця. Заахвочваем далучацца да духоўнага ўсынаўлення ненароджаных дзяцей і да малітвы ў інтэнцыі зачатага жыцця.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

*Сакавік*
*Аб плённым перажыванні парафіяльных велікапосных рэкалекцый. Аб святле Святога Духа для тых, хто праводзіць духоўныя практыкаванні і ўдзельнічае ў іх. Аб дары плённага перажывання дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

*"Голас Евангелля"*
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

*"Сімвал веры"*
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 4 красакавіка.***

*Навіны з Ватыкана па-беларуску*
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Камунікацыя і Міласэрнасць – плённая сустрэча". Папа Францішак**




### ІІ НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

**Мц 17, 1–9**

Узяў Езус Пятра, Якуба і Яна, брата ягонага, і павёў іх адных на высокую гару. І перамяніўся перад імі, а аблічча Ягонае зазззяла, як сонца, і адзенне Ягонае стала белае, як святло. І вось з'явіліся ім Майсей і Ілля, і размаўлялі з Ім. Пётр сказаў у адказ Езусу: "Пане, добра нам тут быць. Калі хочаш, я зраблю тут тры шатры: адзін для Цябе, адзін для Майсея і адзін для Іллі". Калі ён яшчэ казаў, светлае воблака агарнула іх, і вось голас з воблака сказаў: "Гэта Сын Мой Умілаваны, якога Я ўпадабаў. Яго слухайце". Пачуўшы гэта, вучні ўпалі ніцма і вельмі спалохаліся. А Езус падышоў, дакрануўся да іх і сказаў: "Устаньце і не бойцеся". Калі яны ўзнялі свае вочы, нікога не ўбачылі, акрамя аднаго Езуса. І калі сыходзілі з гары, Езус загадаў ім, кажучы: "Нікому не кажыце пра гэтае бачанне, пакуль Сын Чалавечы не ўваскрэсне з мёртвых".

## ДОБРА НАМ ТУТ БЫЦЬ

Сцэна Перамянення на гары ў чарговы раз паказвае прысутным з Езусам вучням, кім на самой справе з'яўляецца іх Настаўнік. Голас Айца, што даносіцца з неба, – "Гэта Сын Мой Умілаваны, якога Я ўпадабаў. Яго слухайце"– перадае гэта лепш за ўсё. Можа здавацца, што апосталы да канца не разумелі, што адбываецца ў дадзены момант. Але словы Пятра – "Пане, добра нам тут быць"– сведчаць аб выключнасці падзей: добра нам тут быць разам з Табой, Пане.

Перамяненне Езуса было пацвярджэннем Яго Боства, Божага сыноўства. Час Вялікага посту ў пэўным сэнсе з'яўляецца своеасаблівым узыходжаннем на гару, дзе мусіць адбыцца і наша перамяненне. Яно павінна прыпомніць аб тым, што з'яўляемся Божымі дзецьмі, што мы выбраны Панам і выключныя ў Яго вачах. Каб выйсці са сферы камфорту і перажыць перамяненне, патрэбны намаганні. Час Вялікага посту павінен у гэтым дапамагчы. Хоць трэба таксама разумець, што ўзыходжанне на гару нашага жыцця не можа абмяжоўвацца адным літургічным перыядам. Увайсці на гару перамянення і трываць там – заданне на ўсё жыццё.

### ІІІ НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

**Ян 4, 5-15. 19b-26. 39a. 40–42**

Прыйшоў Езус ў самарыйскі горад, званы Сіхар, блізка да надзелу зямлі, які даў Якуб сыну свайму Юзафу. Была там студня Якуба. Езус жа, стомлены дарогай, сеў пры студні. Было каля шостай гадзіны. Вось прыходзіць жанчына з Самарыі зачарпнуць вады. Езус кажа ёй: "Дай Мне піць". Вучні ж Ягоныя адышлі ў горад купіць ежы. Жанчына самаранка кажа Яму: "Як Ты, юдэй, просіш піць у мяне, самаранкі?". (Бо юдэі не маюць зносін з самаранамі.) Езус сказаў ёй у адказ: "Калі б ты ведала дар Божы і хто кажа табе «дай мне піць», то сама прасіла б у Яго, і Ён бы даў табе жывой вады". Жанчына кажа Яму: "Пане, у цябе і зачарпнуць няма чым, а студня глыбокая; адкуль жа ў Цябе вада жывая? Няўжо ты большы ад айца вашага Якуба, які даў нам гэтую студню і сам з яе піў, і дзеці яго, і статкі яго?". Езус сказаў ёй у адказ: "Кожны, хто п'е гэтую ваду, зноў запрагне, а хто будзе піць ваду, якую Я дам яму, не запрагне навекі, але вада, якую дам яму, стане ў ім крыніцай вады, якая цячэ ў жыццё вечнае". Жанчына кажа Яму: "Дай мне гэтай вады, каб я не мела больш прагі і не прыходзіла сюды чэрпаць. Пане, я бачу, што Ты прарок. Бацькі нашыя пакланяліся на гэтай гары, а вы кажаце, што месца, дзе трэба пакланяцца, у Ерузалеме". Езус кажа ёй: "Павер мне, жанчына, што надыходзіць час, калі ні на гэтай гары, ні ў Ерузалеме будзеце пакланяцца Айцу. Вы пакланяецеся таму, чаго не ведаеце. Мы пакланяемся таму, што ведаем, бо збаўленне – ад юдэяў. Але надыходзіць час, і цяпер ужо ёсць, калі праўдзівыя вызнаўцы будуць пакланяцца Айцу ў Духу і праўдзе. І такіх вызнаўцаў шукае сабе Айцец. Бог ёсць Духам, і тыя, хто пакланяецца Яму, павінны пакланяцца ў Духу і праўдзе". Жанчына кажа Яму: "Я ведаю, што прыйдзе Месія, які завецца Хрыстом. Калі Ён прыйдзе, абвесціць нам усё". Езус кажа ёй: "Гэта Я, які гавару з табою". Шмат самаранаў з горада гэтага паверыла ў Яго дзякуючы слову жанчыны, якая сведчыла, кажучы: "Расказаў мне ўсё, што я рабіла". Таму, калі прыйшлі да Яго самаране, прасілі Яго застацца з імі. І Ён заставаўся там два дні. І яшчэ больш людзей паверыла дзякуючы слову Ягонаму. А жанчыне казалі: "Мы верым ужо не дзеля твайго апавядання, бо мы самі пачулі і ведаем, што Ён сапраўды Збаўца свету".

## КРЫНІЦА ЖЫВОЙ ВАДЫ

Сустрэча і размова Езуса з самаранкай паказваюць, што кожная асоба мае біялагічныя патрэбы. Адной з самых асноўных з'яўляецца задавальненне смагі. Патрабуючы шукае крыніцу, каб наталіць прагненне, таму што без вады ён можа памерці.

Аднак апроч біялагічных патрэб існуюць і духоўныя. Езус з'яўляецца Крыніцай жывой вады, якая ўказвае мэту людскога існавання і напаўняе жыццё чалавека сэнсам. Таму самаранка просіць Хрыста аб жывой вадзе, якой з'яўляецца Яго навука, бо разумее, што без яе душа можа загінуць. „Таму, калі прыйшлі да Яго самаране, прасілі Яго застацца з імі". Гэта не дзіўна. Хто, пазнаўшы сапраўдную Крыніцу жыцця, захоча яе пакінуць? Аднак, на жаль, можа здарыцца рознае. Таму давайце верна трываць пры гэтай Крыніцы – Хрысце. У моманты засухі ў нашым жыцці яна найбольш эфектыўная, здольная наталіць нават самую моцную смагу – душэўную.

*Кс. Ян Раманоўскі*



**Слова рэдактара**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Нагода сказаць "Дзякуй!"

*20-я гадавіна ўзнікнення дыяцэзіяльнай газеты "Слова Жыцця" з'яўляецца добрай нагодай, каб падзякаваць усім, хто на працягу столькіх гадоў спадарожнічаў рэдакцыі як сталы чытач. Я перакананы, што за гэты час нам удалося дайсці да многіх людзей са Словам, якое змяніла ні адно сэрца і дапамагло адкрыцца на ўздзеянне Божай ласкі.*

Менавіта для Вас, дарагія Чытачы, людзі глыбокай веры, мы займаемся гэтай благаслаўлёнай працай. Прагнем працягваць тую добрую справу, што нарадзілася па ініцыятыве пастыра нашай дыяцэзіі біскупа Аляксандра Кашкевіча, і грунтоўны фундамент якой заклалі першы галоўны рэдактар кс. прэлат Яраслаў Грынашкевіч разам з рэдакцыйным калектывам.

Узмоцненыя благаслаўленнем Апостальскага нунцыя арцыбіскупа Габара Пінтэра, які нядаўна наведваў Гродзенскую дыяцэзію і завітаў таксама ў рэдакцыю, мы ўсвядомілі шмат важных момантаў. Перш за ўсё тое, што ў штодзённай працы прэсы галоўнае не людская пахвала ці колькасць тыражу, а духоўная карысць для чытачоў, праўда і евангелізацыя, каб здзяйснялася справа збаўлення.

Ведаем, што не выпадае пісаць абы-што і абы-як. Божае слова можна абвяшчаць толькі пасля сапраўднага яго перажыцця. Гэта павінна быць пачаткам усяго. І толькі потым трэба клапаціцца аб тым, каб тэкст быў даступным, прыгожым, чытаўся з прыемнасцю і радасцю. Не варта рабіць стаўку на каляровую карцінку. "Слова Жыцця" мае іншую мэту – абвяшчэнне Слова: чыстага, як сляза, і глыбокага, як студня, замацаванага ў Богу. Таму мы таксама не маем права быць абы-якімі. Прагнем на старонках нашай газеты несці гэтае Слова і быць людзьмі Праўды.

**Перажываючы прыгожую гадавіну заснавання рэдакцыі, хочам звярнуцца да Вас з просьбай і надалей заставацца з намі і разам адважна крочыць наперад. Падтрымлівайце рэдакцыйны калектыў сваім словам і добрымі парадамі, каб супольна маглі пісаць нават пра дробныя, але такія важныя справы, каб не гублялі здаровых амбіцый, нястомна развіваліся і імкнуліся да дасканаласці. Давайце паказваць у нашай газеце сувязь Бога з рэчаіснасцю, у якой мы жывём. Давайце нястомна абвяшчаць праўду аб тым, што свет быў збаўлены Хрыстом, перамененым Евангеллем. Прыкладзём усе намаганні, каб наша дыяцэзіяльная газета была не толькі цікавай, але і мудрай. Каб мы ўмелі спалучаць зразумелы і каштоўны змест з прывабным выглядам. І каб ніколі не забыліся, што сапраўднага і абсалютнага шчасця можна дасягнуць толькі ў Богу.**




# Кім былі пастушкі з Фацімы?

**Адносіны дзяцей з Найсвяцейшай Маці выразна адрозніваліся, што згаджалася з планамі Божага Провіду. Самая малодшая – Гіяцынта – бачыла Марыю і чула, што Яна гаварыла, але да канца не разумела значэння слоў. Францішак бачыў Маці Божую, але не чуў Яе, таму пазней пытаўся ў сясцёр, што казала Прыгожая Панна. Толькі Луцыя бачыла, чула і разумела Марыю. Больш таго, размаўляла з Ёй: задавала пытанні, адказвала ад імя ўсіх, скіроўвала просьбы. Бог учыніў дзяўчыну галоўнай даверанай асобай паслання. Гэта яна пераказвала людзям змест чарговых аб'яўленняў.**



## ЛУЦЫЯ ДОС САНТАС

Луцыя нарадзілася 22 сакавіка 1907 года ў Алжуштрэл (Партугалія). Была старэйшай з 3-ох дзяцей – сведкаў аб'яўленняў Марыі. Мела тады 10 гадоў.

З самага пачатку была найбольш уцягнутай удзельніцай аб'яўленняў. Выступала завадатарам у гульнях з малодшымі братам і сястрой, таму, зразумела, прыняла на сябе ініцыятыву падчас сустрэч з Марыяй.

13 чэрвеня 1917 года Найсвяцейшая Маці даручыла Луцыі заданне, для якога "на пэўны час" яна павінна была застацца на зямлі: "Езус прагне, каб Мяне больш ведалі і любілі. Я хацела б устанавіць на свеце набажэнства да Майго Беззаганнага Сэрца". На працягу ўсяго жыцця Луцыя старалася даследаваць праўду аб Маці Божай. Арганізоўвала мноства разнастайных ініцыятыў, каб людзі лепш пазналі Марыю і мацней Яе палюбілі.

У 1925 годзе дзяўчына ўступіла ў Кангрэгацыю Сясцёр св. Дароты, а ў 1948 годзе пераехала ў Кармэль, каб стаць кармэліткай босай. Была простай, сціплай манахіняй, вернай Богу, якая жыла ў цені таямніцы фацімскага паслання. Пра шчырасць, бурны тэмперамент і адвагу с. Луцыі сведчыла тое, што яна смела выражала ўласныя погляды і сутыкалася ў многія зачыненыя дзверы. Манахіню лічылі асобай спакойнай, але рашучай, свядомай свайго паклікання і місіі. С. Луцыя належыць да самых незвычайных постацей мінулага стагоддзя.

Манахіня памерла 13 лютага 2005 года. І ўжо праз 3 гады распачался яе беатыфікацыйны працэс, які трывае да сёння.

На працягу 87-мі гадоў с. Луцыя захоўвала вернасць Марыі, нават у цяжкія хвіліны. Была не толькі сведкам фацімскага паслання, але і яго апосталам. Пры жыцці манахіня пакінула нам запавет, а ў ім – некалькі просьбаў, якія павінны выканаць.

**Першая – вернасць фацімскаму пасланню.** Словы Маці Божай заўсёды былі для Луцыі важнымі. Яна памятала іх і рабіла ўсё, каб рэалізаваць у жыцці: як сваім, так і ўсяго Касцёла.

**Другая просьба – вернасць набажэнству першых субот.** Візіянерка просіць нас не толькі практыкаваць гэтае набажэнства, але і распаўсюджваць яго.

**Трэцім пунктам запавету сястры з'яўляецца заклік да вернасці Ружанцу.** Нам вядома шматразова паўторанае пажаданне Марыі, каб штодзённа маліліся Ружанец. Толькі ён можа забяспечыць свету супакой і адкрыць перад людзьмі брамы неба.

**Апошняя просьба – праяўленне любові да Касцёла і Святога Айца.** Яна мае вельмі вялікае значэнне, паколькі Маці Божая ў сваім пасланні сказала, што кожны з нас павінен ахінуць Касцёл любоўю – бязмежнай, бясконцай, вышэйшай за ўсё.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Малітва з пэндзлем у руцэ

*С. Юліта Пятрова, серафітка, з нядаўняга часу служыць у парафіі Сапоцкін. У вольныя ад іншых кляштарных заняткаў хвіліны яна выразае з дрэва. На дадзены момант актыўна займаецца аднаўленнем драўляных стацый Крыжовага шляху.*

## РЭСТАЎРАЦЫЯ ЎДЫХАЕ ДУШУ Ў СТАРЫЯ РЭЧЫ

Першая стацыя пасля доўгіх аднаўленчых прац ужо набыла глянец і заняла сваё месца ў святыні. Цяпер вядзецца рэстаўрацыя 2-ой і 3-яй стацый. Астатнія чакаюць сваёй чаргі. ***“Хочацца нанова вярнуць ім жыццё”,*** – гаворыць манахіня.

Сястра не ўтойвае, што на аднаўленне адной стацыі патрэбна вельмі шмат часу, бо неабходна прайсці ўсе этапы па чарзе. ***“Спачатку належыць старанна ачысціць драўніну ад старой фарбы машынкай і адшліфаваць усе няроўнасці. Затым ачышчанае дрэва трэба пакрыць шпаклёўкай. Чарговы этап – зачыстка наждачнай паперай. У працэсе штосьці папраўляю, выразаю дробныя элементы. Затым наношу грунт. А на канец застаецца фарбаванне. Калі займацца толькі гэтым з раніцы да вечара, патрэбна каля 3-ох тыдняў. Я ж магу прызначыць на дадзеную справу каля 3-ох гадзін у дзень. Калі б мела час, то дні і ночы прысвячала б разьбе. Яна мяне вельмі “зацягвае”: увогуле не звяртаю ўвагі на гадзіны”,*** – прызнаецца манахіня.

*Дзякуючы шліфоўцы драўніна становіцца гладкай*

## МАЙСТЭРСТВА – З МОЦНАГА ЖАДАННЯ ТВАРЫЦЬ

Акурат гэтаму мастацтву – разьбе па дрэву – ніхто с. Юліту не вучыў. Уменне прыйшло само, проста так, звычайна…

Манахіня ўзялася за працу пасля атрымання адпаведнай на гэтую тэму інфармацыі. Аб тэхналогіі і тэхніцы аднаўлення даўніны, асновах рэканструкцыі і рэстаўрацыі твораў мастацтва, аднаўленчай прафілактыцы даведалася падчас спецыяльных курсаў у Міры, а таксама дзякуючы многім таленавітым людзям, якіх сустракала на сваім жыццёвым шляху. Менавіта яны ўвялі сястру ў таямніцы розных рэстаўрацыйных тэхнік. Гэта цяпер манахіня ўжо ведае, што самым лепшым матэрыялам для стварэння скульптуры з'яўляецца ліпа, якую дагэтуль у полі гойдаў вецер, таму што яе драўніна мацнейшая.

Сястра дадае, што вельмі хутка навучылася абслугоўваць розныя станкі, патрэбныя для гэтай працы. І вельмі цешыцца, што сёння існуюць разнастайныя прылады, пры дапамозе якіх праца становіцца лягчэйшай, якасна лепшай і забірае трохі менш часу. ***“Добрыя інструменты вельмі патрэбныя. Хоць некалі звычайным ножыкам для рэзкі паперы, ды ў дадатку яшчэ зламаным, я выразала прыгожы крыж Сан-Даміяна з ліпы”,*** – успамінае с. Юліта.

## ТАЛЕНТ, ЯКІ ДА ПЭЎНАГА ЧАСУ “СПАЎ”

Манахіня вельмі любіць рэстаўрыраваць старыя рэчы. ***“Калісьці я была ва Украіне і бачыла там занядбаныя, часткова разбураныя святыні. З-за гэтага ў мяне балела сэрца. Тады пачула вялікае жаданне, каб наколькі гэта магчыма ўсюды, дзе буду па Божай волі служыць, вяртаць першапачатковы стан старым ці знішчаным часам рэчам”,*** – прызнаецца с. Юліта.

Спярша манахіня спрабавала маляваць на палатне алейнымі фарбамі. Любоў да творчасці такога тыпу сястра пераняла ад свайго бацькі. Ад яго таксама навучылася асноўным тэхнікам жывапісу: гледзячы, як ён працуе, пераймаючы яго рухі. Манахіня прызнаецца, што ў пачатковай школе па маляванні мела адзнаку “3”, аднак гэта не знеахвоціла яе. ***“Потым, будучы ўжо ў супольнасці, трэба было рыхтаваць розныя дэкарацыі, часам штосьці маляваць. Праз пэўны час я пачала заўважаць, што ў мяне гэта нават атрымліваецца”,*** – дадае с. Юліта.

Потым яе зацікавілі іконы. Вучылася гэтаму, пакуль была ў Польшчы. Апошнюю ікону з вобразам Добрага Пастыра сястра напісала за 3 дні. Адна з першых ікон паўставала амаль год. ***“Чым даўжэй працягваецца працэс стварэння іконы ці карціны, якая прадстаўляе пэўны пейзаж, тым больш жыва выглядае твор,*** – дадае манахіня. ***– Пісаць іконы можна сабе дазволіць толькі тады, калі час не падганяе і не разлічваем на хуткі эфект. Сапраўдная ікона паўстае на працягу многіх месяцаў… У ёй ёсць подых Усходу, дзе не лічылі часу, а малявалі для Пана Бога”.***

*Перад пакраскай усе элементы зачышчаюцца*

## У ІКОНАХ ВАЖНЕЙ СІМВАЛІЧНАСЦЬ, ЧЫМ КОЛЕР

Можна сказаць, што пісанне ікон з'яўляецца малітвай з пэндзлем у руцэ. Перад распачаццем працы, як адзначае с. Юліта, важны, а нават і неабходны, “зварот да Святога Духа”. Прыступаючы да малявання, мастак павінен вызваліцца ад прывязанасцей, што займаюць яго розум, каб стаць як пустое начынне, якое павінен напоўніць Бог. Трэба адсунуць іншыя рэчы ўбок і дазволіць іконе “весці” сябе, а дакладней “сустрэцца” з асобай, аблічча якой хочацца адлюстраваць. ***“Ікона з'яўляецца для свайго аўтара спатканнем з Панам Богам. Гэта не звычайнае маляванне, як у выпадку карціны, нават рэлігійнага зместу. Падчас пісання іконы праз малітву наладжваем блізкія адносіны з постаццю, якая там будзе адлюстравана”,*** – адзначае манахіня.

Сястра падкрэслівае, што ў іконах не надаецца такая ўвага эстэтычнаму ўражанню, як у іншых карцінах. Іх стваральнік – іканапісец – не падбірае скрупулёзна колеры, каб “было прыгожа”, а больш клапоціцца аб глыбіні твора. Кіруецца, хутчэй, пасланнем. Кожны элемент мае сімвалічны і нават тэалагічны характар, таму можна сказаць, што ікону не столькі разглядваюць, колькі чытаюць. ***“Яна з'яўляецца акном, праз якое чалавек можа зазірнуць у сэрца Бога, акном, праз якое Бог заглядвае ў сэрца чалавека. Але гэта не зачыненае акно”,*** – дадае манахіня.

*Разьба – адзін з відаў мастацкай апрацоўкі дрэва*

Сястра адзначае, што вельмі важнае значэнне ў іконах маюць вочы асоб, якія на іх адлюстраваны. З кожнай з іх – незалежна ад таго, прадстаўляе яна самога Хрыста, Дзіцятка Езус на руках Багародзіцы, або Хрыста ў Яго святых ці святочных падзеях гісторыі збаўлення – сам Бог глядзіць на людзей. Гэты позірк нібы спыняе чалавека, заклікае, пабуджае да роздуму, таму што запальвае ў сэрцы пробліск надзеі і агеньчык любові… Калі чалавек заўважае Божы позірк, ён прызнае сваю каралеўскую годнасць, прыгадвае належнае яму месца, якое знаходзіцца ў Пану.

## НАТХНЕННЕ ЗАЗВЫЧАЙ ПРЫХОДЗІЦЬ У ХОДЗЕ ПРАЦЫ

***“Часам я бяру кавалак драўніны на пробу, а ў працэсе штосьці атрымліваецца. Неаднойчы на пачатку працы я не мела ніякага ўяўлення аб тым, што хачу зрабіць, але падчас творчага працэсу заўважаю, як вымалёўваецца якаясьці вельмі цікавая рэч”,*** – сціпла дзеліцца манахіня, дадаючы, што падобным чынам адбываецца з маляваннем абразоў. ***“Гэтая праца вучыць мяне многаму. Што праўда, трэба шмат пакоры, паколькі не заўсёды ўсё складваецца так, як хацелася б. Неабходна таксама многа цярплівасці, каб на працягу доўгага часу працаваць над якім-небудзь адным дробным элементам”,*** – дадае сястра.

Трэба любіць справу, якой займаешся, бо інакш ніколі не напішацца ікона, не выражацца скульптура з дрэва, не адновіцца старажытны рэльеф. Як зазначае манахіня, варта прасіць Бога аб дапамозе ў стварэнні кожнай работы: вялікай ці малой. Для гэтага не патрэбна містыка – дастаткова простай веры і набожнасці.

## У ІМЯ ПАНА!

Не кожны чалавек здольны зрабіць такія рэчы – трэба мець да гэтага пакліканне. Канечны эфект кожнай работы – не толькі рэзультат намаганняў мастака. Гэта таксама вялікі дар і таямніца. Сястра адзначае, што трэба проста любіць сваю справу і хацець развівацца ў гэтым напрамку. Штодзённая паслуга павінна прыносіць радасць, а не быць цяжарам.

***“Я вельмі ўдзячна Пану за ўсе дары, за тое, што магу сваімі рукамі рабіць такія рэчы. Удзячнасць выплывае з унутранага пераканання, што ўсё паходзіць ад Бога і што Ён з'яўляецца крыніцай усякага дабра. У сваіх пасланнях св. Павел заахвочваў да частай малітвы ўдзячнасці: «Усё рабіце ў імя Пана Езуса, дзякуючы праз Яго Богу Айцу» (Кал 3, 17). І таму ўсё гэта я здзяйсняю перш за ўсё на хвалу Усемагутнага”,*** – падсумоўвае с. Юліта.

***Кс. Юрый Марціновіч***

## Лісты чытачоў

***У 50-гадовым узросце я шчыра паспавядалася з усяго свайго жыцця. Гэта было ў пачатку 2009 года, калі Бог прыслаў у наш пасёлак першага пасля Другой сусветнай вайны пробашча – кс. Аляксандра Севасцьяновіча.***

*На першы погляд здавалася, што Пан Езус прыняў мае грахі, адчувалася лёгкасць. Тэарэтычна я разумела, што з'яўляюся Божай дачкой, жыву ў створаным Ім свеце… Але так хацелася адчуць сэрцам паўнату любові Усемагутнага! Я ўсведамляла, што гэта не так проста, але ўсё ж прагнула. І імкнулася да гэтага з дня ў дзень. Шмат малілася, слухала пропаведзі, чытала Пісанне, разважала над ім, цікавілася сведчаннямі і жыццём святых, пасцілася за грахі, а потым – і ў іншых намерах. З любоўю прымала ўсё тое, што Бог дапускаў. У тым ліку і церні, цяжкасці, за якія дзякавала і са слязьмі прасіла аб дапамозе. Усемагутны даваў спакой… Увасабляючы ў жыццё Божыя планы, намеры, даверыўшыся Яму цалкам, разумееш, што Бог цябе ніколі не пакіне.*

*Памятаю, як пасля споведзі святар мне сказаў, што праз 6 гадоў я буду іншай. Адразу думка: “Як? Я ж ужо іншая!”. Гэта цяпер я бачу: грахі мінулага не пакідалі і зноў даводзілася грашыць. Складана… Але галоўнае, што Езус не асуджае, а стаіць побач, гатовы ў сваёй славе суцешыць і падтрымаць. З той пары мінула не 6, а 8 гадоў. Я адчуваю любоў Стварыцеля. Бачу тую заканамернасць, якую раней не заўважала ці, можа, не хацела заўважаць. Чым бліжэй да Бога, тым гарачэй жаданне Яму падпарадкавацца. Гэта чароўны абмен! Бог дае ласку наблізіцца да святасці, а я аддаю Яму час праз нястомную малітву на ружанцы, шматкротны пост на хлебе і вадзе, штодзённае перажыванне набажэнства Крыжовага шляху, адмаўленне Вяночка да Божай міласэрнасці ў святую гадзіну. Падказкі падае сам Святы Дух: “Добрыя ўчынкі! Ты павінна быць прыкладам для акружаючых”. Працягваючы працаваць над сабой, вымаць “бярвёны” з вачэй – такім чынам вызваляючыся ад сваёй “трухлявасці” (Мц 7, 5) – ты ўжо злучаешся з Панам, які абуджае і натхняе.*

*Дапамагае ўсяму гэтаму штодзённае выпрабаванне сумлення, пару хвілін шчырасці перад сабой і Богам. У гэты час Святы Дух адкрывае тыя моманты, калі адвярнуўся ад Бога, забыўшыся, што Ён ёсць Любоў. Але праз раскаянне ў сваіх недахопах зноў і зноў ідзеш да споведзі, выпрошваючы ў Пана міласэрнасці. І атрымліваеш! Хіба гэта не цуд?*

***Паважаны пробашч кс. Аляксандр, хутка Вы адзначыце Дзень нараджэння. У малітве разам з парафіянамі просім Бога, каб усё, што аддаеце на Яго хвалу, прымнажалася. Няхай Ваша імкненне да святасці і далей прыцягвае ўсіх нас да крыніцы міласэрнасці. Спадзяюся, маё сведчанне стане для Вас падарункам за добрае і чыстае сэрца, за любоў да людзей, якой ніколі не шкадуеце. “Няхай святло ваша так свеціць перад людзьмі, каб яны бачылі вашы добрыя ўчынкі і праслаўлялі Айца вашага, які ў нябёсах” (Мц 5, 16). Хвала Богу і Марыі Дзеве!***

***Марына Езерская, г.п. Мір***

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак

*Вялікі пост – гэта шлях да Хрыста. Перыяд пакаяння, а таксама аскетызму, які павінен дапамагчы ўваскрэснуць з Езусам, аднавіць тоеснасць, атрыманую з хростам, а значыць нанова адрадзіцца “з вышыні”, з любові Бога. Гэта таксама сакраментальны знак нашага пілігрымавання ад нявольніцтва, якое заўсёды павінна аднаўляцца, да свабоды. Вось чаму Вялікі пост па сваёй прыродзе з'яўляецца часам надзеі, шляхам навяртання.*

*Канешне, пост патрабуе высілкаў – і гэта слушна, таму што любоў патрабуе высілкаў. Але дадзены шлях поўны надзеі, і нават больш за тое. Я б сказаў, што велікапосны зыход – дарога, на якой фарміруецца надзея. Цяжкасці пераходу праз пустыню – выпрабаванні, спакусы, ілюзіі, міражы – усё гэта патрэбна, каб каваць моцную, грунтоўную надзею па прыкладзе Панны Марыі, якая сярод цемры мукі і смерці свайго Сына працягвала верыць і спадзявацца на Ягонае ўваскрасенне, на перамогу Божай любові.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 01.03.2017*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч

*Як чытаем у Святым Пісанні, жменю праху Бог узяў у свае рукі, сфармаваў з любоўю, адарыў подыхам жыцця і зрабіў з яе “шэдэўр” – чалавека разумнага і свабоднага, здольнага пазнаваць, слухаць і любіць свайго Стварыцеля. А таму прызначэнне чалавека і мэта яго зямной вандроўкі – не ператварэнне ў прах, з якога быў узяты, але дасягненне сапраўднага шчасця, якім з'яўляецца вечнае жыццё ў Богу.*

*На жаль, заўсёды існуе рызыка, што чалавек забудзе аб гэтай найважнейшай мэце свайго існавання. У штодзённым імкненні, у клопаце аб задавальненні асноўных матэрыяльных патрэб, у нястомных стараннях забяспечыць сабе і сваёй сям'і годныя жыццёвыя ўмовы, у пачуцці няўпэўненасці і страху адносна далёкай і блізкай будучыні ні адзін сучасны хрысціянін неяк прапускае з-пад увагі духоўнае, рэлігійнае вымярэнне свайго жыцця, усё радзей задумваецца аб пакліканні да вечнасці і дае цалкам паглынуць сябе часовым справам.*

*Таму перыяд Вялікага посту патрэбны, каб глыбей зазірнуць у сябе, спыніцца над уласным жыццём, больш увагі прысвяціць духоўным справам і клопату аб вечным збаўленні. Вялікі пост – час навяртання ці адважнага разарвання з грахом, са злом, з усім, што нас духоўна знявольвае і аддаляе ад любячага Бога.*

*Фрагмент пастырскага ліста на Першую нядзелю Вялікага посту 2017 года*




◆ *У Рыме скончыўся дыяцэзіяльны этап беатыфікацыйнага працэсу папы Бенедыкта XIII. Ён кіраваў Касцёлам у 1724–1730 гг. Быў вядомы сваёй прастатой, блізкасцю да людзей, а таксама клопатам пра ўбогіх і ізаляваных ад грамадства. Пастулятар яго беатыфікацыйнай справы д-р Паола Вілота заўважае, што Папа быў "чалавекам вялікай культуры", а яго "евангелізацыя заўсёды мела вельмі міласэрны характар". Бенедыкт XIII памёр ад ліхаманкі ва ўзросце 81 год. Ён апошні да гэтага часу Папа, які паходзіць з ордэна дамініканцаў.*

◆ *У сувязі з усё большым недахопам святароў дыяцэзія Пасау ў Германіі пастанавіла, што ў будучым пахавальныя ўрачыстасці будуць праводзіць таксама занятыя на поўны працоўны дзень свецкія тэолагі. "Смерць – самы радыкальны досвед як для паміраючай асобы, так і для яе блізкіх. Таму неабходна не толькі забяспечыць добрую і годную падтрымку для цяжка хворых і паміраючых людзей, але і паклапаціцца аб годным пахаванні спачылага і аб дапамозе жалобнікам у цяжкія хвіліны, якія яны перажываюць", – сцвердзіў кс. Ганс Баурнфайнд, кіраўнік душпастырскага бюро.*

◆ *Упершыню Ватыкан прыме ўдзел у Біенале архітэктуры ў Венецыі. Адна з найважнейшых міжнародных выставак будзе праходзіць з 26 мая па 25 лістапада 2018 года. Ужо двойчы Ватыкан прымаў удзел у Венецыянскім біенале мастацтва. У 2013 годзе ватыканскі павільён прэзентаваў гісторыю стварэння, а ў 2015 годзе – праект пад дэвізам "На пачатку Слова стала целам", падрыхтаваны Монікай Брава, Эльпідай Хадшы-Васільевай і Марыя Масілау.*

◆ *Фінішаваў XI Чэмпіянат Еўропы па міні-футболе сярод святароў, які праходзіў у Вуковары (Харватыя). У ім прынялі ўдзел 220 прадстаўнікоў духавенства з 15-ці краін. Вынікова рэйтынг сфарміраваўся наступным чынам: Партугалія, Боснія і Герцагавіна, Харватыя, Славакія, Румынія, Венгрыя, Польшча, Аўстрыя, Славенія, Чарнагорыя, Казахстан, Чэхія, Італія, Украіна і Беларусь. У наступным годзе чэмпіянат адбудзецца ў Італіі.*

◆ *"Міс Германія 2016" Lena Bröder працягне працу ў якасці настаўніцы каталіцкай рэлігіі ў сярэдніх школах Мюнстэра. На працягу года яна знаходзілася ў адпачынку, звязаным з атрыманым тытулам. Нягледзячы на магчымасць увайсці ў "свет забаў і моды", дзяўчына вырашыла вярнуцца да сваёй ранейшай дзейнасці. У інтэрв'ю афіцыйнаму сайту нямецкага каталіцкага Касцёла katholisch.de Bröder распавяла аб задачах, якія ставяць перад сабой настаўнікі каталіцкага выхавання, і аб уласным бачанні на гэты конт.*

*credo-ua.org; ekai.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# Слова, што вядзе

*Кс. прэлат Яраслаў Грынашкевіч стаяў ля вытокаў стварэння дыяцэзіяльнай газеты "Слова Жыцця". Быў першым галоўным рэдактарам, які сабраў пад крыло пачатковы калектыў супрацоўнікоў. Менавіта ён сустрэўся з асноўнымі цяжкасцямі выдавецкай дзейнасці, але і быў тым, хто бачыў маленькія і вялікія перамогі закладзенай справы. Сёння кс. Яраслаў дае інтэрв'ю газеце "Слова Жыцця", распавядаючы пра першы цёплы экземпляр і эвалюцыю, якую заўважае ў выданні.*



● *працяг са с. 1*

### ЯК УЗНІКЛА ІДЭЯ СТВАРЭННЯ ГАЗЕТЫ Ў ДЫЯЦЭЗІІ? З ЧАГО ЎСЁ ПАЧЫНАЛАСЯ?

Можна сказаць, што каталіцкая газета Гродзенскай дыяцэзіі зарадзілася ў ваколіцах плошчы св. Пятра ў Рыме. Гэта было восенню 1994 года. Біскуп Аляксандр Кашкевіч у той час прымаў удзел у сінодзе біскупаў, а я завяршаў навучанне, што датычыла сродкаў масавай інфармацыі. Падчас адной з нашых сустрэч ксёндз біскуп прапанаваў мне прыехаць у Гродна і заняцца арганізацыяй рэдакцыі дыяцэзіяльнай газеты. Я з задавальненнем пагадзіўся.

### ПАМЯТАЕЦЕ ДЭБЮТ "СЛОВА ЖЫЦЦЯ"?

Безумоўна! Я быў у друкарні, калі з ротарнай машыны сыходзіў першы нумар. Ён быў яшчэ цёплы, калі я з радасцю прынёс яго біскупу. Газета з'явілася акурат на свята св. каралевіча Казіміра, заступніка гродзенскага Касцёла.

***На вокладцы першага нумара газеты змяшчаўся зварот біскупа Аляксандра Кашкевіча да дыяцэзіян. У ім іерарх запрашаў паклацiцца аб тым, каб выданне не трывала абасабалася ў дамах верных, "каб маглі ўзаемна радавацца знакам Божай прысутнасці сярод нас". Разам з навінамі з дыяцэзіі і свету ў выданні змяшчаліся Біблійныя галаваломкі, правілы добрага тону, а таксама рэцэпт прыгатавання налісткаў.***

### ЧАМУ БЫЛА ВЫБРАНА МЕНАВІТА ТАКАЯ НАЗВА – "СЛОВА ЖЫЦЦЯ"?

Назва выдання выбіралася ў ходзе дыскусіі ў коле групы, прызначаной ксяндзом біскупам. Калі не памыляюся, аўтарам гэтай ідэі быў кіраўнік выдавецтва Гродзенскай дыяцэзіі кс. Тадэвуш Крыштопік. "Слова" заўсёды было "ў пачатку". Чаму "Жыцця"? Наша праца павінна была спадарожнічаць намаганням Касцёла, што вёў чалавека да паўнаты жыцця ў Богу. Людзі, да якіх мы звярталіся, прагнулі "Слова Жыцця", якое дагэтуль было забаронена камуністычным рэжымам.

Дарэчы, кс. Тадэвуш быў бясцэнным на этапе арганізацыі газеты. Заўсёды дапамагаў, даваў парады.

# Як ствараецца газета?

*Паважаны Чытач!*

*Трымаючы ў руках новы нумар, ці задумваўся Ты, які шлях робіць газета, каб трапіць да свайго адрасата? Запрашаем адправіцца ў вялікае падарожжа працягласцю ў 2 тыдні. Менавіта з такой перыядычнасцю выходзіць "Слова Жыцця", столькі часу затрачваецца на выпуск аднаго нумара газеты.*

## Планаванне тэм

Жыццё новага нумара распачынаецца на наступны дзень пасля таго, як папярэдні трапіў да чытача. Супрацоўнікі рэдакцыі збіраюцца на планёрку, дзе абмяркоўваюць тэмы, што будуць асвятляцца ў нумары, і якім чынам яны могуць выглядаць на газетнай паласе. Завочна да рэдкалегіі падключаюцца пазаштатныя аўтары.

Таксама на планёрцы выбіраюцца лісты чытачоў для публікацыі. Рэдакцыя вельмі задаволена, што на яе адрас пішуць нераўнадушныя людзі. Усхваляваныя радкі чытачоў саграваюць душу. Спярша – супрацоўнікам, затым – іншым чытачам. Рэдакцыя зацікаўлена, каб кожны дасланы ліст быў надрукаваны ў газеце. Акрамя таго, заўсёды рада "за кадрам". Напрыклад, немагчыма перадаць тыя абставіны, у якіх адбываецца бяседа, або настрой, якім апа...



*Будучы нумар пачынаецца з планёркі*

> Здараецца, дзясяткі тэлефонных званкоў "каштуюць" аднаго радка ў газеце, а для паўнавартаснага інтэрв'ю часам можа хапіць усяго 15-20 хвілін.

...чуць удзячныя галасы вернікаў з розных куткоў дыяцэзіі, якія спяшаюцца павіншаваць духавенства з надыходзячымі святамі.

Калі становіцца вядома прыкладная праграма нумара, творчыя супрацоўнікі рэдакцыі прымаюцца за працу над тэкстамі.

## Напісанне артыкулаў

Для падрыхтоўкі тэкста аўтару патрэбна перачытаць шмат тэматычнай літаратуры, каб быць добра дасведчаным у асвятляемым пытанні. Ён перакладзе мэту прапанаваць чытачу штосьці, чаго той яшчэ не ведаў. У працэсе працы трэба знайсці патрэбных людзей, скантактавацца з імі для атрымання неабходнай інфармацыі.

Пасля таго, як звесткі сабраны, распачынаецца апрацоўка матэрыялу. Да чытача, вядома, "даходзіць" не ўсё – выбіраюцца найбольш цікавыя, карысныя і вартыя ўвагі факты.

Некаторыя рэчы ў журналісцкай працы застаюцца наваны суразмоўца. А часта гэта вельмі важныя фактары, што пакідаюць свой адбітак на будучым артыкуле.

## Праверка, пераклад

Калі тэкст гатовы, ён адпраўляецца на праўку. Разам з тым, удакладняюцца некаторыя моманты, правяраюцца дадзеныя. Пасля праверкі артыкул тлумачыцца на іншую мову, тым самым становячыся даступным і зразумелым для шырэйшага кола чытачоў.

Працу перакладчыка аналагічна можна назваць творчай. Каб дакладна перадаць тое, што хацеў сказаць аўтар, трэба адчуць, зразумець яго думкі. А гэта таксама мастацтва.

## Вёрстка

Пасля апрацоўкі артыкулы адпраўляюцца на вёрстку. Графічны дызайнер працуе над арыгінал-макетам нумара, кампануе тэкст і ілюстрацыі да яго. Імкнецца зрабіць старонкі газеты візуальна "смачнымі", прывабнымі. Цяжкасці палягаюць на тым, каб справіцца з гэтым якасна ў сціслы тэрмін. На вёрстку газеты звычайна затрачваецца ўсяго некалькі дзён.

Здавалася б, праца амаль зроблена? Але! Нумар чакае вычытка. Некалькі чалавек старанна правяраюць тэксты, укладзеныя на паласе. Пад увагу бяруцца агульнае ўражанне ад чытання, візуальная спалучальнасць загалоўка, тэкста і ілюстрацый, правільнасць пераносаў, рознага роду іншыя хібнасці. На гэтым этапе праца рэдакцыі заканчваецца.

## Друк

За 3 дні да выхаду ў свет нумар адпраўляецца ў друкарню. Вялікія рулоны з паперай пастаўляюцца на спецыяльнае абсталяванне, дзе на матэрыял паслядоўна наносяцца 4 асноўныя фарбы: блакітная, пурпурная, жоўтая і чорная. Пасля друку выданне вылівае згодна з арыгінал-макетам.

Затым газета трапляе ў аддзелачны цэх, дзе на вялікіх машынах адбываецца нарэзка паперы і кампаноўка старонак у нумар. Як успамінаюць папярэднікі, на самым пачатку існавання выдання супрацоўнікі рэдакцыі самастойна наразалі паперу з раздрукаваным на ёй нумарам газеты. Гэта забірала дадатковы час. На шчасце, тэхналогіі ўдасканаліліся.

## Дастаўка

У друкарні ўжо чакае вадзіцель. Хутка ён забярэ тыраж і развязе яго па парафіях. Спачатку газета трапляе ў касцёлы горада Гродна, затым – у аддаленныя ад цэнтра дыяцэзіі святыні згодна прыкладзенаму маршруту кіроўцы. Каб экземпляр трапіў да самага далёкага чытача, вадзіцель праязджае каля тысячы кіламетраў за 2 дні.

І вось у нядзелю, пасля карпатлівай працы журналістаў, рэдактараў, перакладчыкаў, вярстальшчыка, цэлага штату супрацоўнікаў друкарні і, нарэшце, клопату вадзіцеля, газета знаходзіць свайго адрасата.

> Каб надрукаваць агульны тыраж нумара газеты "Слова Жыцця", неабходна паўтоны паперы.

## Сусветная сетка

З 2009 года газета "Слова Жыцця" мае свой сайт у інтэрнэце **slowo.grodnensis.by**. Звычайна на наступны дзень пасля выхаду газеты вэб-старонка абнаўляецца, на ёй змяшчаюцца актуальныя артыкулы. Там жа можна спампаваць электронны варыянт новага нумара, каб яго было зручна чытаць на камп'ютары, планшэце, у тэлефоне.

"Слова Жыцця" таксама прысутнічае ў сацыяльных сетках па адрасе ***facebook.com/slowo.grodnensis.by***. Кантэнт на старонцы абнаўляецца штодня. Такім чынам, чытач можа расцягнуць чытанне газеты на тыдзень-паўтара. Падпісчыкі старонкі ў фэйсбуку першымі даведваюцца, пра што будзе новы нумар. За некалькі дзён да выхаду газеты публікуецца анонс, у якім асвятляюцца самыя цікавыя бягучыя тэмы і артыкулы. Акрамя ўсяго, рэдакцыя заўсёды знаходзіцца ў рэжыме анлайн, гатовая адказаць на дасланыя паведамленні чытачоў.

## Праца – як па гадзінніку

Дзейнасць у рэдакцыі не спыняецца ні на хвіліну. Часта даводзіцца працаваць у пазаўрочны час. І калі скласці недаспаныя гадзіны (няхай некалькіх апошніх месяцаў) усіх разам супрацоўнікаў у адно, то атрымаецца, што за гэты час магчыма было б перачытаць "Ганну Карэніну" Льва Талстога. Некалькі разоў.

З упэўненасцю можна адзначыць, што кожны работнік – незаменны і аднолькава важны. Калі хтосьці вымушаны адсутнічаць з-за нейкіх абставін, праца ў рэдакцыі тармозіцца. Гэта як у выпадку з механізмам гадзінніка: калі пазбавіцца якой-небудзь дэталі, канструкцыя парушаецца і час спыняецца. На першы погляд можа здавацца, што ўсе маюць асабістыя абавязкі, незалежныя адзін ад аднаго. На самой справе, калектыў рэдакцыі моцна з'яднаны. Таму супрацоўнікі "Слова Жыцця"... ніколі не хварэюць. Канешне ж, гэта жарт. Але зерне ў тым, што ім проста нельга расслабляцца, каб чарговы нумар своечасова трапіў да свайго чытача.

***Матэрыялы паласы падрыхтавала Ангеліна Пакачайла***

# да паўнаты Жыцця

Першапачаткова менавіта выдавецтва дзялілася з рэдакцыяй месцам працы, камп'ютарамі. І заўсёды заставалася ў цесным супрацоўніцтве з калектывам "Слова Жыцця".

*Напачатку рэдакцыя газеты знаходзілася ў зале пры гродзенскім катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. Там штотыдзень папераменна працавалі калектывы "Слова Жыцця" і выдавецтва. Праз некалькі гадоў рэдакцыя была перанесена ў памяшканне курыі, дзе і знаходзіцца да гэтага дня.*

ЯКІЯ ЦЯЖКАСЦІ ДАВОДЗІЛАСЯ ПЕРААДОЛЬВАЦЬ НАПАЧАТКУ?

У першую чаргу – фарміраванне калектыву. Трэба было, каб ён адпавядаў патрабаванням, што ставіў выдавец, г. зн. дыяцэзія, і рэалізаваў выразна акрэсленую мэту газеты. А разам з тым, роздум над тыражом і эфектыўным размеркаваннем выдання сярод чытачоў. Гэта праблемы ўсёй прэсы. Не памятаю дакладнай лічбы, але мы вырашылі рызыкнуць з тыражом на рост попыту, каб "Слова Жыцця" дабралася да максімальна шырокай аўдыторыі католікаў. Затым, пасля праверкі рэальных патрэб, агульны тыраж стабілізаваўся на ўзроўні каля 12-ці тысяч экземпляраў польскай і беларускай версій.

*Найбольшым тыражом выйшаў 3-ці нумар "Слова Жыцця". Ён разышоўся па дыяцэзіі колькасцю 26 тысяч экземпляраў. Польскамоўная версія газеты раней пераважала над беларускамоўнай: адрознівалася па лічбавым паказчыку тыража прыкладна ў 1,5 разы. Сёння гэтая розніца выраўнялася. Агульны тыраж газеты – крыху больш за 9 тысяч экземпляраў.*

КАЛІ ЦЯПЕР ПЕРАГЛЯДАЕЦЕ ГАЗЕТУ, ШТО ВАМ НАЙБОЛЬШ ПАДАБАЕЦЦА Ў ЁЙ?

Цешыць не толькі змест, але і знешні выгляд сённяшняй газеты. У першую чаргу, жывая, "дынамічная" вёрстка. Калі мы распачыналі гэтую справу, маглі толькі марыць аб каляровых старонках. Сучаснае "Слова Жыцця" з упэўненасцю можна назваць больш сталым як адносна зместу, так і формы. Гэта вынік працы некалькіх чарговых рэдактараў і многіх людзей у складзе рэдакцыі.

*З моманту заснавання газета выдавалася ў чорна-белым варыянце з выкарыстаннем адной каляровай фарбы для першай і апошняй старонак. Выходзіла фарматам А4 на 12–16 палосах. З канца 2004 года "Слова Жыцця" змяніла фармат на А3 і колькасць старонак – на 8. У пачатку 2015 года газета перайшла на поўнакаляровы друк.*

НА ШТО Б ПАРАІЛІ ЗВЯРНУЦЬ УВАГУ?

Прызнаюся, я трохі збянтэжаны пытаннем... Хоць і чытаю газету, мяне ўсё ж няма на месцы, і не ўдзельнічаю ў бягучым жыцці Касцёла на Гродзеншчыне, таму цяжка нешта параіць. Можа, варта было б для большай эфектыўнасці прыкладзеных намаганняў перайсці на форму штотыднёвіка? Памятаю, што гродзенскае "Слова" мы высылалі таксама ў некалькі месцаў па-за дыяцэзіяй. Невялікая змена профілю газеты, як мне здаецца, магла б дапамагчы выйсці на "шырэйшыя воды".

*Сёння газету "Слова Жыцця" чытаюць таксама ў Віцебскай і Пінскай дыяцэзіях, Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. "Слова" даходзіць і да чытачоў з Польшчы.*

ВАШЫ ПАЖАДАННІ СЁННЯШНЯМУ КАЛЕКТЫВУ РЭДАКЦЫІ І ЧЫТАЧАМ ГАЗЕТЫ.

**Жадаю таго, што з'яўляецца мэтай кожнай рэдакцыі: каб вынік працы калектыву трапляў да чытача і прыносіў чаканы плён. Каб "Слова Жыцця" ўсё больш уключалася ў апостальства Касцёла – было Словам, што эфектыўна прапануе і нясе Жыццё, па якім сумуе кожнае людское сэрца.**

**Усяго найлепшага рэдакцыі і ўсім чытачам!**




*20-годдзе для каталіцкага выдання ў нашым кантэксце – вельмі значная дата. "Слова Жыцця" было заснавана ў гады рэлігійнага рэнесансу. Тады патрэба ў інфармацыі пра жыццё Касцёла была высокай, але і праз гады калектыў не толькі здолеў утрымаць свайго чытача, але і заваяваць аўтарытэт сярод іншых каталіцкіх мас-медый. Важна не спыняцца на дасягнутым, бо "motus est vita", што з латыні значыць "рух – гэта жыццё". Калі правесці аналогію з роляй газеты ў сучасным грамадстве, можна дадаць: рух аўдыторыі да Бога – ёсць сэнс жыцця любога каталіцкага СМІ. А ў XXI стагоддзі гэта, магчыма, яшчэ больш актуальна, чым два дзесяцігоддзі таму. Папа Францішак лічыць, што каталіцкія СМІ маюць вельмі складаную місію – садзейнічаць камунікацыі паміж людзьмі і пашыраць культуру сустрэчы. Вядома, што гэта можа адбывацца толькі пры наяўнасці шчырасці і жадання гаварыць праўду, пры адсутнасці кан'юнктурнасці, замкнёнасці, страху, цэнзуры і стэрэатыпаў, якія падрываюць здольнасць да сапраўдных евангельскіх зносін чалавека з чалавекам, чалавека з Богам... Застаецца толькі пажадаць Вам, дарагія супрацоўнікі "Слова Жыцця", быць мужнымі, каб гаварыць сумленна і свабодна, адкрытымі, каб слухаць і чуць, несучы слова Евангелля – слова хрысціянскага жыцця, само жыццё!*




*Паважаныя калегі! Шчыра віншуем Вас з нагоды 20-годдзя з дня заснавання газеты "Слова Жыцця". Усяму калектыву рэдакцыі, шматлікім пазаштатным аўтарам выдання жадаем моцнага здароўя і творчага плёну. Няхай Вас ніколі не пакідае перакананне, што распачатая папярэднікамі справа моцна патрэбна сучаснікам дзеля хвалы Божай, дзеля перамогі дабра над злом, дзеля збаўлення чалавека. Няхай добры Пан дапамагае Вам знаходзіць годныя ўвагі тэмы, цікавых людзей, якія гатовы сведчыць аб прысутнасці Бога ў нашым жыцці. Яшчэ раз са святам!*




*Дарагія калегі, з радасцю шчыра віншуем з юбілеем! Менавіта Вы былі сярод пачынальнікаў каталіцкіх медыяў у Беларусі, дапамагаючы не толькі сталаму пакаленню, але і моладзі крочыць за Хрыстом. І цяпер не спыняеце сваё развіццё, прысутнічаеце ў інтэрнэце. Жадаем трымаць марку, каб і мы, маладыя каталіцкія СМІ, маглі вучыцца ў Вас прафесіяналізму і адданасці справе Евангелізацыі. Божых дабраслаўленняў і плёну на нялёгкім шляху!*



**Выдавецтва «Pro Christo»**

*"Слову Жыцця" – новага адкрыцця! Шаноўныя калегі, радасна, што ў гэты час вясновага абуджэння Вы адзначаеце свой прыгожы, малады юбілей 20-годдзя, атулены нястомнаю, чулаю і міласэрнаю апекаю Маці Божай. Гэты юбілей дае шмат надзей. Пацвярджае Вашу жыццяздольнасць і запатрабаванасць, умацоўвае веру ў доўгую, шчаслівую будучыню і напаўняе творчай радасцю. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, натхнёнага і плённага служэння "Слову Жыцця" на новыя і шчаслівыя дзесяцігоддзі. Малітоўна і творча Вас падтрымліваем.*



**Выдавецтвы Гродзенскай дыяцэзіі**

*Паважаныя калегі! Вось ужо 20 гадоў мы з Вамі разам супрацоўнічаем у Божай справе евангелізацыі нашай дыяцэзіі. Разам мы пераадолелі нямала перашкод і цяжкасцей, перажылі шмат радасных хвілін. Няхай добры Бог і далей блаславяе Вашу працу і дадае сіл, новых творчых ідэй, а таксама адорвае пачуццём задавальнення і радасці ад служэння Яму. З Юбілеем, дарагія сябры!*




*Заўсёды захапляліся працавітасцю рэдакцыйнай калегіі, якая клапоціцца ажно пра дзве версіі выдання: беларускамоўную і польскамоўную. У сувязі з юбілеем 20-годдзя хочам пажадаць супрацоўнікам паспяховага творчага пошуку і няспыннага развіцця. Можа, варта было б задумацца пра шырэйшую тэрыторыю распаўсюджвання газеты? Упэўнены, што многім вернікам Віцебскай дыяцэзіі было б цікава даведацца, чым жывуць католікі Гродзеншчыны. Са святам, дарагія сябры!*




*Паважаны кс. Юрый і ўвесь калектыў газеты "Слова Жыцця"! Віншуем рэдакцыю з юбілеем. На працягу 20-ці гадоў "Слова" нясе евангельскую вестку шырокай аўдыторыі. Гэтая важная справа распачыналася ў час адраджэння веры ў нашай краіне, калі людзі мелі патрэбу ў катэхізацыі і рэлігійнай адукацыі. Жадаем, каб выданне і далей знаходзіла новых чытачоў, было прасвятленнем для тых, хто яшчэ не знайшоў дарогу ў святыню. Натхнення ўсяму калектыву на кожны дзень!*




*Вельмі сардэчна і шчыра*
*віншуем Вас з 20-годдзем*
*і зычым папулярнасці ў народзе.*
*Хай чытаюць людзі "Слова",*
*што жыццю дае аснову...*
*Зычым шчодрай ласкі Божай,*
*журналісцкай долі гожай.*
*Хай расце штодня наклад,*
*хай усюды будзе лад.*
*Дарагія сябры,*
*і надалей годна ў Гродна*
*"Слова Жыцця" нясіце,*
*нястомна і верна Богу служыце!*




*Гаворачы пра ролю інфармацыі, Святы Айцец Ян Павел ІІ нагадвае словы з Кнігі Прыпавесцяў: "Як глыток халоднай вады для прагнучага горла, так добрая навіна з далёкай краіны" (Прып 25, 25). Ён пазначае, што асабліва вялікае значэнне мае пераказ інфармацыі пра Добрую Навіну: "Гэта важна гэтак жа, як важна для чалавека ў дарозе крыніца жывой вады ў пустыні". Магчымасць сацыяльнай камунікацыі павінна спрыяць адзінству і развіццю ўсёй чалавечай сям'і. На працягу 20-ці гадоў "Слова Жыцця" імкнулася рэалізаваць гэтае адказнае і важнае заданне, якое Касцёл даверыў рэдакцыі. З гэтай нагоды "Радыё Марыя", якое толькі распачынае сваю дзейнасць у Беларусі і робіць першыя крокі на шляху, па якім ужо 20 гадоў пілігрымуе "Слова Жыцця", віншуе шаноўную рэдакцыю і ўсіх чытачоў з юбілеем. Дзякуем Усемагутнаму за гэты дар, якім з'яўляецеся для супольнасці Касцёла ў Беларусі. Жадаем далей ахвярна служыць Богу і людзям, несучы ў іх жыццё святло Добрай Навіны, каб праз гэта кожны мог наблізіцца да Пана і іншага чалавека. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе вас усіх сваёй апекай. Аддзяч Божа!*




*Шаноўная рэдакцыя, аўтары і чытачы "Слова Жыцця"! Шчыра віншуем Вас з 20-годдзем! Аказваецца, мы з Вамі равеснікі, бо ў гэтым годзе нам таксама спаўняецца 20. З нагоды гэтага прыгожага юбілею жадаем, каб Слова, якое нясецце ў свет, якім наталяеце смагу людзей, заўсёды жыло ў Вас. Будзьце моцныя Ім! Божага блаславлення на штодзень*



**Выдавецтвы Пінскай дыяцэзіі**

*Дзякуй Богу, што такая газета ёсць. Дзякуй Богу за ўсіх людзей, якія прычыняюцца да гэтай справы. Усе яны ўкладваюць не толькі свой розум, але і сэрца, што самае важнае. Дзякуй і ўсім тым, хто чытае газету. Варта ведаць, як будуецца Валадарства Божае на зямлі. Гэта першачарговая задача каталіцкай прэсы. Няхай Маці Вастрабрамская, выява якой знаходзіцца на тытульным лісце выдання, атуляе сваёй апекай чытачоў і рэдакцыю. Няхай "Слова Жыцця" існуе і далей не 20 гадоў, а хаця б 200! Няхай Слова будзе сапраўдным для чытачоў, а рэдакцыі прыносіць радасць з таго, што праз газету хтосьці паглыбіў сваю веру, а можа нават і знайшоў.*




**CatholicNews.by**

### Прэм'ера мюзікла "Караль" пра св. Яна Паўла ІІ адбылася ў Польшчы

***Музыкальна-тэатральная пастаноўка з вялікім размахам распавядае гісторыю жыцця хлопца з Вадавіцаў, якога Бог прывёў у Ватыкан.***

*"Напамін пра постаць і асобу Яна Паўла ІІ, які натхняе і маладых, і старэйшых, з'яўляецца своечасовым, каштоўным і па-ранейшаму актуальным", – адзначыў кардынал Станіслаў Дзівіш, дзелячыся першымі ўражаннямі пасля прагляду мюзікла. Мастацкі кіраўнік і аўтар лібрэта Міхал Качмарчык заўважае, што мюзікл паказвае Яна Паўла ІІ блізкага іншаму чалавеку, які, будучы паэтам, філосафам, спартсменам, змяніў аблічча Ватыкана і ўсяго свету. Стваральнікі музычна-сцэнічнага твора плануюць вырушыць у тур, каб мюзікл "Караль" убачылі не толькі ў Польшчы, але і за мяжой.*




### Папа прыме еўрапейскіх кіраўнікоў

***Лідэры краін Еўрасаюза сустрэнуцца з папам Францішкам у Рыме перад распачаццем саміту.***

*Пра магчымасць сустрэчы згадваў прэм'ер-міністр Мальты Джозэф Мускат. На яго думку, Святы Айцец можа забяспечыць карэктны працэс сацыяльнага ўплыву, якога не хапае палітычным дзеячам. "Папа – найбольш адпаведны лідэр, які мае кампетэнцыю і бачанне, каб гаварыць пераўзыходзячы відавочнасць і банальнасць, якія мы выказваем у палітыцы", – сцвердзіў прэм'ер-міністр. Кіраўнік Інстытута Жака Дэлора Іў Бертанчыні лічыць, што Пантыфік з'яўляецца адзіным маральным аўтарытэтам, які мог бы быць арыенцірам для еўрапейскіх лідэраў.*




### У Фаціму прыходзяць навіны пра цуды

***"Партугальскі санктуарый атрымлівае шматлікія электронныя лісты аб ласках, дасведчаных праз заступніцтва с. Луцыі дос Сантас", – паведаміла с. Анжэла Коэльо, віцэ-пастулятар беатыфікацыйнага працэсу ўдзельніцы марыйных аб'яўленняў 1917 года.***

*Манахіня таксама паінфармавала аб вялікай колькасці малітоўных просьбаў, з якімі звяртаюцца ў гэты санктуарый. Яны з'яўляюцца карыснымі ў сувязі з бягучым працэсам. "Можна гаварыць пра вялікі давер вернікаў да заступніцтва сястры Луцыі", – дадала с. Анжэла, агаворваючыся, між іншым, што пакуль не можа назваць дату магчымай беатыфікацыі.*

*Кінга Красіцкая*

## "Раздай усё і ідзі за Мной"

*На тэму пасланніцтва спаведніка разважалі святары, якія служаць у Гродзенскай дыяцэзіі. Дзень засяроджання адбыўся ў парафіі Святой Сям'і ў Лідзе*



Св. Імшу цэлебраваў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Іерарх заахвоціў святароў быць "веснікамі дабрыні", заўсёды адкрываецца на беды і патрэбы вернікаў. Біскуп адзначыў, што яны павінны з вялікай адказнасцю падыходзіць да здзяйснення сакраманту пакаяння, каб у іх служэнні вернікі "сустракалі міласэрнага Бога, які любіць і жадае збаўлення кожнага чалавека".

З гаміліяй да сабраных звярнуўся кс. канонік Уладзімір Гуляй, біскупскі вікарый Лідскага раёна. Ён адзначыў, што без пазнання Божай любові духоўнае жыццё святара немагчымае. Падкрэсліў таксама, што пакліканы чалавек не павінен баяцца сябе. "Калі Хрыстос абірае сёння мяне, слабога, то таму, што бачыць канчатковы вынік майго жыцця. Бачыць ува мне магчымасці святога", – сказаў кс. канонік.

Па словах кс. Уладзіміра, Бог скіроўвае заклік "Ідзі за Мной" да людзей, якія ведаюць, што "меч" – не самае важнае. "Святар не скажа «у мяне ёсць святарства», але «я з'яўляюся святаром». Бо святарствам не валодаюць, ім жывуць. Рысай духоўнай дасканаласці з'яўляецца перакананне, што ўчасце дасягаецца на шляху перажывання існавання як дару".

## Св. місіі прайшлі ў Навагрудку

*Да гэтай падзеі вернікі касцёла св. Міхала Арханёла рыхтаваліся праз малітву і пост. Апошні раз місіі ў парафіі праходзілі 26 гадоў таму і, як сцвярджаюць старажылы, не мелі такой масавасці і размаху, як сёлетнія.*



На працягу тыдня місіянеры – айцы рэдэмптарысты з Гродна – дапамагалі парафіяльнай супольнасці пазнаваць Бога і набліжацца да Яго. На кожны дзень была абрана свая тэма разважанняў ("Бог ёсць Любоў", "Грэх і збаўленне ў Езусе Хрысце", "Вера і навяртанне", "Езус – мой Пан" і інш.). Змяняліся месцы спатканняў і аўдыторыя слухачоў. У межах праграмы ладзіліся спецыяльныя сустрэчы для навучэнцаў школ і каледжаў, моладзі і іх бацькоў. Больш за 70 сямейных пар аднавілі сужэнскія абяцанні. Таксама вернікі прымалі ўдзел у пакутных і марыйных набажэнствах.

На заканчэнне св. місій у Навагрудку быў усталяваны вялікі памятны крыж.

## Фотавыстава пра арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага адкрылася ў Гродне

*З 1926 па 1944 год ён быў Мітрапалітам Віленскай архідыяцэзіі, у склад якой у той час уваходзілі землі Гродзеншчыны.*



Ініцыятарам выставы, якую прадставілі ў касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля, выступіў Інстытут нацыянальнай памяці ў Беластоку. Адкрыццю экспазіцыі папярэднічала св. Імша. Пасля літургіі генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Гродне Яраслаў Ксёнжэк наблізіў прысутным у святыні вернікам постаць знанага арцыбіскупа. "Мітрапаліт Віленскі моцна паўплываў на развіццё архідыяцэзіі. Прывёў на яе тэрыторыю новыя манаскія супольнасці, стварыў дыяцэзіяльную друкарню, заснаваў Інстытут вышэйшых рэлігійных ведаў. З асаблівай заклапочанасцю падыходзіў да дабрачыннай дзейнасці арганізацыі «Карытас». У перыяд Другой сусветнай вайны арцыбіскупа двойчы арыштоўвалі савецкія і нямецкія ўлады. Але нязломны характар дазволіў яму «ўваскрасіць» рэлігійнае жыццё ў дыяцэзіі ў новай пасляваеннай сітуацыі", – адзначыў польскі консул.

Наведаць выставу можна да 17 сакавіка.

## Папяльцовая серада ў гродзенскай катэдры: адкрыць сэрцы на патрэбы братоў

*Распачаўся чарговы Вялікі пост – час, калі Касцёл асаблівым чынам заклікае хрысціян да практыкавання ўчынкаў, якія служаць навяртанню сэрцаў.*



Св. Імшу ў першы дзень посту ў касцёле св. Францішка Ксаверыя ўзначаліў гродзенскі ардынарый Аляксандр Кашкевіч. На пачатку літургіі біскуп пажадаў прысутным, каб 40-дзённы час вялікапоснага пакаяння стаў добрай нагодай, каб яшчэ больш наблізіцца да Бога, багатага на міласэрнасць. Іерарх заахвоціў вернікаў чуйна трываць у духу малітвы, захоўваць пост і адкрываць сэрцы на патрэбы братоў.

Гамілію прамовіў кс. Аляксандр Мацкевіч, натарыус гродзенскай курыі. Святар нагадаў, што перыяд Вялікага посту з'яўляецца падрыхтоўкай да ўрачыстасці Уваскрасення Пана. "Наша зямное жыццё праміная, таму належыць больш клапаціцца аб духоўных справах", – сказаў кс. Аляксандр, дадаўшы, што да вечнага жыцця Бог паклікаў кожнага чалавека. Святар таксама нагадаў пра той належны кірунак, якім з'яўляюцца тры пакутныя практыкі: малітва, пост і міласціна – сродкі, якія павінны дапамагчы чалавеку ў аднаўленні адносін з Богам.

Пасля адбыўся абрад пасыпання галоваў вернікаў попелам.

## Вялікапосныя рэкалекцыі прайшлі ў Гродзенскай ВДС

*Духоўныя практыкаванні для клерыкаў правёў кс. Валерый Быкоўскі. Падчас рэкалекцый святар падзяліўся з семінарыстамі самым каштоўным скарбам у жыцці кожнага працаўніка на ніве Пана – досведам асабістага спаткання з Хрыстом.*



Рэкалекцыяніст увёў прысутных у таямніцу сакраманту хросту, якая з'яўляецца невычэрпнай крыніцай хрысціянскага жыцця. Падзяліўся ўласным досведам рознабаковага святарскага служэння.

Семінарысты адзначылі, што вялікапосныя рэкалекцыі сталі бясцэнным Божым дарам для іх, прагнучых паглыбіць свае асабістыя адносіны з Хрыстом, пачуць у цішыні сэрца Яго далікатны голас. Духоўныя практыкаванні таксама дазволілі клерыкам паглядзець на сябе і сваіх блізкіх вачыма, поўнымі бескарыслівай любові і Айцоўскага прабачэння.

## 400-годдзе заснавання супольнасці піяраў адзначылі ў Шчучыне

*Урачыстасць адбылася ў парафіі св. Тэрэзы Авільскай. У дзень юбілею Ордэна Набожных Школ айцы піяры аднавілі манаскія абяцанні.*



Праз гэты жэст святары пацвердзілі сваё прысвячэнне выхаванню дзяцей і моладзі па прыкладзе св. Юзафа Каласанса – заснавальніка ордэна. "Ад усяго сэрца дзякуем Богу за дар жыцця і «каласанскага паклікання». Просім у малітве і спадзяёмся, што ідзя св. Юзафа знойдзе яшчэ шмат прыхільнікаў", – адзначылі манахі падчас св. Імшы.

Ордэн Набожных Школ – першы манаскі інстытут у каталіцкім Касцёле, прысвечаны выключна выхаванню дзяцей і моладзі. На сённяшні дзень айцы піяры нясуць паслугу ў 38-мі краінах на 4-ох кантынетах свету.

## Салезіянскія аніматары Беларусі сустрэліся ў Бараўлянах

*У фармацыйнай сустрэчы прыняла ўдзел моладзь з Мінска, Бараўлянаў, Смаргоні і Дзятлава.*



У межах спаткання маладыя людзі мелі магчымасць паглыбіць аніматарскую фармацыю і духоўную сталасць. Праграма ўключала ў сябе вясёлыя гульні, малітву, канферэнцыі, адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту і споведзь, супольную малітву літургіі гадзінаў і ўдзел у св. Імшы.

Падчас першага дня сустрэчы аніматары разам з кс. Паўлам Шчарбіцкім SDB вучыліся адрозніваць праўду ад хлусні і задумваліся над прапанаванымі ўрыўкамі з Бібліі. На наступны дзень сабраныя разважалі над тэмай "Радасць". Канферэнцыю правяла с. Дар'я Еўтухоўская FMA. "Сапраўдная радасць глыбокая і незалежная. Яна выплывае з сэрца, гаспадаром якога з'яўляецца Бог, бо Ён ёсць крыніцай праўдзівага шчасця!", – адзначыла с. Дар'я.

Падчас фармацыйнай сустрэчы моладзь сустрэлася з дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандрам Яшэўскім SDB і Рэгіянальным настаўнікам салезіян у Беларусі кс. Віктарам Гайдукевічам SDB. Пастырская прысутнасць і цёплыя словы святароў былі знакам падтрымкі і даверу да будучыні Касцёла Беларусі.

## АНОНСЫ

### У "РАДЫЁ МАРЫЯ" З'ЯВІЎСЯ ANDROID-ДАДАТАК

**Праграму можна ўсталяваць праз Play Market. Яна дазваляе слухаць і чытаць "Радыё Марыя" ў Беларусі анлайн.**

Мабільны дадатак змяшчае кантакты рэдакцыі, гісторыю ўзнікнення радыё, праграму эфіру на кожны дзень і тэкставую версію навін. Будзе карысны людзям незалежна ад веравызнання, тым, хто знаходзіцца ў духоўным пошуку, а таксама цікавіцца каталіцкай духоўнасцю.

### "RYBYPROJECT" ЗАПУСКАЕ ФАРМАЦЫЙНЫ ПРАЕКТ ДЛЯ ХРЫСЦІЯНСКІХ МУЗЫКАНТАЎ

**Ён уяўляе сабой адмысловую музычную майстэрню пад кіраўніцтвам "Rybyproject". Праграма складаецца з тэарэтычнай і практычнай часткі. Прадугледжаны заняткі як з вакалістамі, так і з музыкантамі: барабаншчыкамі, клавішнікамі і гітарыстамі. Мэта праекта – абмен вопытам паміж удзельнікамі і павышэнне іх прафесійнага ўзроўню.**

У перспектыве арганізатары сустрэчы разглядаюць стварэнне платформы хрысціянскіх музыкантаў у Беларусі.

*Дадатковая інфармацыя па тэлефоне: (8 033) 637-57-14, Віталій; e-mail: rybyproject@mail.ru.*

### ГРОДЗЕНСКАЯ ПАРАФІЯ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў ФАЦІМУ

**Парафія Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне ладзіць аўтобусную пілігрымку з нагоды 100-годдзя аб'яўленняў Маці Божай у Партугаліі. На дарозе плануецца наведванне некаторых санктуарыяў і еўрапейскіх гарадоў.**

**Санктуарыі**
Лурд *(Францыя)*, Санцьяга-дэ-Кампастэла *(Іспанія)*, Фаціма *(Партугалія)*
**Гарады Еўропы**
Парыж, Страсбург *(Францыя)*, Барселона *(Іспанія)*, Лісабон *(Партугалія)*
**Час пілігрымкі**
25 чэрвеня – 9 ліпеня
**Дадатковая інфармацыя**
*Алена Мелеш: (8 033) 311-20-01, hmielesz@interia.pl;*
*А. Эдуард Пяцельчыц CSsR: (8 033) 371-50-49, edikcssr@gmail.com*

### КУРСЫ-РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў НАВАГРУДКУ

**Пройдуць 21–26 ліпеня ў кляштары сясцёр назарэтанак. Прыняць удзел у курсах могуць кансультанты сямейнага жыцця, а таксама ўсе зацікаўленыя.**

У праграме прадугледжаны цыкл сустрэч, падчас якіх удзельнікі змогуць пашырыць свае веды адносна пытанняў веры, сямейнага жыцця, спосабаў будавання добрых стасункаў у сужэнстве. Кожны зможа задаць пытанні падчас адмысловага пункту праграмы "100 пытанняў да…". Падчас разважання над Божым словам вернікі паглыбяць малітоўнае жыццё. Галоўнай падзеяй дня будзе Эўхарыстыя.

*Запіс па тэлефоне: (8 029) 588-42-73, Ірына Мялешка.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**20 сакавіка 1964 г.** – кс. Юльян Бароўка, *проб. Рэпля;*
**25 сакавіка 2005 г.** – кс. прэлат Казімір Шаняўскі, *проб. Радунь;*
**25 сакавіка 2009 г.** – кс. кан. Уладзіслаў Мышчанскі, *душп. Сапоцкін;*
**26 сакавіка 1942 г.** – кс. Ян Хробаншч, *проб. Капцёўка;*
**26 сакавіка 1997 г.** – а. Францішак Кракоўскі CSsR, *проб. Макараўцы.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by, catholic.by***



# Як успрымаць тых, хто чакае міласціны?

**Адзін вядомы акцёр аднойчы пераапрануўся ў бяздомнага. Чапляўся да прахожых, просячы грошай. Толькі адна жанчына дала яму нешта паесці... Па цэнтральных вуліцах нашага горада таксама часта бадзяюцца жабракі, шукаючы грошай у мінакоў: на ежу, аперацыю, лякарствы. Праходзячы побач з такімі людзьмі, цяжка застацца абыякавым. Аднак варта дапамагаць “з галавой”.**

### ЧАСОВАЯ ДАПАМОГА БЕДНЫМ УМАЦОЎВАЕ ІХ ПРАБЛЕМУ

Сустракаючы перад касцёлам ці побач з супермаркетам убогую маці з дзіцём, калеку ці бяздомнага, мы часта ахвяруем ім грошы, паколькі як хрысціяне павінны практыкаваць міласэрнасць да бліжняга ў патрэбе, асабліва ў перыяд Вялікага посту. Аднак чуем таксама, што даванне грошай на вуліцы – гэта не рашэнне.

Больш таго, яно нават можа паглыбіць праблему, таму што многія жабракі з'яўляюцца звычайнымі падманшчыкамі, якія хочуць выцягнуць з людзей грошы на алкаголь.

Даючы ім тое, чаго просяць, мы, несумненна, грашым, таму што падтрымліваем залежнасць беднякоў і пэўным чынам умацоўваем іх утрыманства. Вельмі часта жабракі не намераны нічога змяняць у сваім жыцці: не шукаюць працу, не звяртаюцца ў арганізацыі, дзе ім могуць аказаць падтрымку. І калі мы такой асобе даём у рукі грошы, то ўмацоўваем яе ў меркаванні, што знойдзецца месца, дзе атрымае дапамогу, а таму можна і далей весці такое жыццё.

Што ў такім разе трэба рабіць: даваць ці не? Св. Ян Віянэй калісьці сказаў: “Ёсць тыя, хто гаворыць: «Ён гэта змарнуе!». На што б ні выкарыстаў гэты ўбогі вашу міласціну, адкажа за гэта на судзе. А вам Бог улічыць міласціну, якую маглі ахвяраваць, але не ахвяравалі”. Гэты ж святы піша таксама: “Даючы міласціну, трэба памятаць, што не ўбогім, а Богу даём. [...] Бядняк з'яўляецца нікім іншым як інструментам, якім карыстаецца Пан, каб наказаць вам рабіць дабро! Якія ж мы шчаслівыя, калі ўбогія прыходзяць да нас па міласціну. Калі б не прыходзілі, мы павінны былі б іх шукаць, а не заўсёды маем час”.

*Міласціна – гэта практычны знак нашай веры і любові да Бога і бліжняга. Яна заключаецца ў дзяленні тым, што маем, у імя справядлівасці, але ў першую чаргу ў імя любові. Міласціна – гэта праяўленне міласэрнасці ў канкрэтным учынку, таму ў ёй столькі духоўнага харaства. Пра тое казаў сам Хрыстос, разам з тым удзяляючы выразныя ўказанні: “Калі даеш міласціну, не трубі перад сабою, як робяць крывадушнікі, [...] каб людзі хвалілі іх. [...] Яны атрымліваюць сваю ўзнагароду. Калі даеш міласціну, няхай не ведае твая левая рука, што робіць правіца твая, каб міласціна твая была патаемнай. А твой Айцец, які бачыць патаемнае, аддасць табе” (Мц 6, 2–4). Езус павучае нас, “забруджаных” эгаізмам людзей, каб у час удзялення міласціны не шукалі ўласнай хвалы і вядомасці, але каб падтрымлівалі іншых у меру магчымасцей, кіруючыся сапраўднай любоўю, якая заўсёды з'яўляецца бескарыслівай.*

У святле гэтых выказванняў напрошваецца простая выснова. Нягледзячы на тое, што часам у нас узнікае боязь адносна таго, ці будзе міласціна добра выкарыстана, не павінны губляць жаданне рабіць дабро. Гаворка не ідзе аб тым, каб у кожнай сітуацыі неабдумана раздаваць грошы, але заўсёды ў адносінах з жабракамі кіравацца сэрцам і цвярозым розумам.

### СПАТКАННЕ ВАЖНЕЙШАЕ ЗА МАТЭРЫЯЛЬНЫ ДАР

Здавалася б, грашовае ахвяраванне – самы просты спосаб, каб пазбавіцца ад дакораў сумлення, што з'яўляюцца, калі мінаем занядбанага чалавека. Думаем сабе тады: “Я падтрымаў беднага, я такі добры, а што з ім будзе далей – не мая справа”. Аднак як жа часта такая пастава звязана з нашым эгаізмам і адсутнасцю адчувальнасці. Даванне грошай – часовая дапамога, якая ў большасці выпадкаў не вырашае ніякай праблемы.

Нашмат цяжэй запытаць асобу, што просіць грошай, як хоча іх патраціць і чаму вымушана жабраваць на вуліцы. Падказаць месца, дзе ёй могуць удзяліць дапамогу. Такім чынам мы ўсталёўваем кантакт з жабраком, аказваем яму зычлівасць. Тады ёсць шанс сапраўды паўздзейнічаць, дакрануцца да жыцця іншага чалавека і паспрыяць таму, што ў ім нешта зменіцца. Формы дапамогі не павінны быць выратаваннем – даём жабраку штосьці, каб пратрымаўся да заўтрашняга дня. Добра таксама спрабаваць указаць пэўныя магчымасці дзеяння, перспектывы, пераконваць, што трэба спрабаваць пачаць занава, не здавацца, бо жыццё вартае таго. Такая пастава патрабуе часу, адданасці і ўцягнення – каштоўнасцей, якія цяжэй за ўсё ахвяраваць. У сваю чаргу, кіданне дробных грошай для заспакаення сумлення не каштуе нам шмат.

*Міласціна атаясамліваецца ў нас з матэрыяльнай падтрымкай. Самая частая форма дапамогі – грашовае ахвяраванне. Сваёй капейкай мы можам падзяліцца, напрыклад, падчас збораў, што праводзяцца ў касцёлах, на месцах працы ці ў мясцовай супольнасці.*

### ДАПАМАГАЦЬ ЛЕПШ, ЭФЕКТЫЎНЕЙ, БОЛЬШ ГОДНА

Мы павінны паступаць так, каб наша дапамога не ўмацоўвала паталагічны стан, але на самой справе трапляла туды, дзе яна патрэбна. Замест падтрымкі жабракоў на вуліцы можна знайсці такіх людзей, якім бы здолелі спадарожнічаць у пераадоленні іх беднасці. Варта агледзецца навокал, каб заўважыць асобу ці сям'ю, якой неабходна дапамога. Пазнаць, даведацца аб яе патрэбах. Тады наша дапамога не знікне ўпустую: будзем адчуваць адказнасць за канкрэтных бедных людзей, якім неабходна падтрымка.

Наша ўцягненне можа выражацца таксама праз валанцёрства, дастасаванае да сваіх магчымасцей. Такая паслуга, рэалізаваная на карысць канкрэтным патрабуючым асобам, не ананімная. Магчыма, яна не будзе скіравана непасрэдна чалавеку, які жабруе на вуліцы, але стане адной з частак, якую кожны ўкладвае ў справу любові Касцёла.

Можна таксама аказваць міласэрнасць праз фінансавую падтрымку разнастайных арганізацый ці фондаў, што аказваюць дапамогу грамадзянам. Іх вельмі шмат. Можам выбраць тую, якой давяраем і дзейнасць якой нам блізкая.

*Падрыхтавала*
*Кінга Красіцкая*



ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ

# Апостальскі нунцый у Беларусі з афіцыйным візітам прыбыў у Гродна

Падчас 3-дзённага візіту арцыбіскуп Габар Пінтэр пабываў у Вышэйшай духоўнай семінарыі, наведаў некаторыя парафіі горада, сустрэўся са студэнтамі катэхетычных курсаў, каталіцкай моладдзю і шматлікімі малітоўнымі групамі і душпастырствамі. Асобным пунктам праграмы візіту сталі сустрэчы Апостальскага нунцыя з праваслаўным архіепіскапам Гродзенскім і Ваўкавыскім Арцеміем Кішчанкам і свецкімі ўладамі горада.



Прадстаўнік Святога Айца паабяцаў, што будзе не толькі паслом Ватыкана ў Беларусі, але і паслом Беларусі па-за яе межамі



Сустрэча Нунцыя са студэнтамі-католікамі з Афрыкі і Азіі ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі



“Для мяне вялікая радасць і вялікае здзіўленне бачыць Касцёл такі дынамічны, такі жывы”, – падкрэсліў Апостальскі нунцый



У ходзе размовы з праваслаўным архіепіскапам Нунцый выказаў пажаданне, каб Гродна быў прыкладам братэрскіх адносін



Вітаючы Апостальскага нунцыя прысутныя хорам заклікалі: “Беларусь чакае Папу!”



Супольная малітва абп Габара Пінтэра з вернікамі парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне

# ЧАМУЧКІ

## Дзіцячая рубрыка



## Чаму так важна здзяйсняць добрыя ўчынкі?

Падчас Вялікага посту мы чуем заклік Пана Езуса, каб рабіць добрыя справы, бо вера без учынкаў мёртвая (параўн. Як 2, 17). Што ж гэта за ўчынкі, і якую ролю яны адыгрываюць у жыцці чалавека?

Першым добрым учынкам з’яўляецца малітва. Яна адкрывае нас на Бога, на размову з Ім. Другі – пост, калі мы дабравольна адмаўляемся ад нейкіх прыемнасцей. І, нарэшце, трэці – міласціна. Гэта жэст любові да бліжняга, які выражаецца праз ахвяру на карысць іншага чалавека. Той, хто любіць, умее дзяліцца тым, што мае, нават калі ў яго нечага зусім мала. Але варта памятаць і пра тое, што міласціна – не толькі матэрыяльны падарунак. Перш за ўсё, гэта падарунак сэрца. Тут вельмі важная праява дабрыні, павагі да чалавека, гатоўнасць удзяліць яму ўвагу і свой час.

У часе Вялікага посту трэба імкнуцца рабіць больш добрых спраў. І, галоўнае, здзяйсняць іх у пакоры сэрца. А каб усвядоміць, наколькі гэта важна, прапануем Тваёй увазе прыпавесць манаха Сямёна Афонскага.

**Жыў-быў адзін чалавек. І жыў ён не вельмі добра – блытана. Вырашыў тады ўзяцца за розум: здзяйсняць добрыя ўчынкі, каб ратаваць душу. Рабіў іх, рабіў, а асаблівай змены да лепшага ў сабе не заўважаў.**

**Неяк ішоў ён па вуліцы. Заўважыў, як у бабулькі гузік з паліто абарваўся і ўпаў на зямлю. Думае: “Ды чаго там! Гузікаў у яе яшчэ хопіць. Не падымаць жа! Глупства нейкае”. Але ўсё-такі, крэкчучы, падняў, дагнаў старую, аддаў ёй гузік і хутка пра гэта забыўся.**

**Памёр ён і бачыць шалі: злева – яго дрэнныя ўчынкі, а справа – нічога няма, пуста. “Эх, – кажа сам сабе чалавек, – і тут не пашанцавала”. Аж бачыць, анёлы на шалі гузік кладуць... І чаша з добрымі справамі паволі апускаецца. “Няўжо адзін гэты гузік здольны пераважыць усе тое зло, што я ўчыніў? – дзівіцца чалавек. – Колькі добрых спраў я зрабіў, а іх і не відаць?”. А анёл адказвае яму: “З-за таго, што ты ганарыўся імі, то і прапалі. А вось менавіта гэтага гузіка, пра які забыўся, хапіла, каб ты ад згубы выратаваўся...”.**

Памятай, кожны – нават самы маленькі і просты – учынак, калі ён зроблены бескарысна, з любоўю да бліжняга, можа збавіць Тваю душу.

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Заданне:

**паспрабуй штодня рабіць добрую справу. Запісвай яе ў сшытак, каб увечары паразмаўляць пра гэта з бацькамі.**

**Чакаем Тваіх “чаму”, якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**

На пытанні заўсёды гатовы адказаць салезіянкі са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін жадаем натхнення Святога Духа на кожны дзень пастырскай паслугі, надзейнай апекі святога Заступніка і ўсіх Божых ласкаў. Няхай кожны дар, які Ты атрымліваеш ад Пана, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху.

*Мама і родныя*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Імянін складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай паслуга на ніве Пана прыносіць задавальненне і шчодры плён, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі. Жадаем таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою, усіх дароў Святога Духа і Божага благаслаўлення на кожны дзень.

*Рэдакцыя “Слова Жыцця”*

**Паважанаму Ксяндзу Юзафу Ганьчыцу**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая нястомна Вамі апекуецца, а Святы Дух удзяляе свае шчодрыя дары. Шчасці Божа!

*Францішканскі ордэн свецкіх і Ружанцовыя колы з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксянзу Пробашчу Казіміру Мураву**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, цішыні ў сэрцы, мноства прыгожых, спакойных, сонечных і бласлаўлёных дзён. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Казімір нястомна Вамі апекуюцца, а Святы Дух спасылае свае дары. Шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень святарскай паслугі і добрых людзей побач. Шчасці Божа!

*З удзячнасцю, былыя парафіяне*

**Паважаным Айцу Казіміру Енджэйчаку і Ксяндзу Казіміру Мураву**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог, а таксама людской дабрыні.

*Сем’і Орлюкас, Юадэшка*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, душэўнага супакою, Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Шчасці Божа!

*Верныя парафіяне з в. Асташа, Францішканскі ордэн свецкіх і Ружанцовыя колы з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Збігневу Драгулу**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою на кожны дзень душпастырскай паслугі, аптымізму, нязгаснага запалу веры, надзеі і любові. Няхай Пан Бог заўсёды Вас благаслаўляе, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік нястомна апекуюцца Вамі. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Старых Васілішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Юзафу Ганьчыцу**

з нагоды Імянін жадаем Божага бласлаўлення. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены здароўем, шчасцем і радасцю. Святы Дух няхай асвячае шлях і вядзе па Божых сцежках, Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі, а праца на ніве Пана прыносіць шчодры плён. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліды, парафія Святой Сям’і*

**Паважанаму Ксяндзу Пробшчу Юзафу Багдзевічу**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, людской зычлівасці, усіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Дзякуем за адкрытае сэрца, адданую працу, мудрыя словы, клопат пра касцёл і людзей. Нізкі паклон за працу ў нашай парафіі!

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі свсв. Космы і Дам’яна, Астравец*

**Паважанаму Айцу Валерыю Шэйгерэвічу**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог нястомна ўзмацняе Вас у пакліканні, адорвае патрэбнымі ласкамі ў кожную хвіліну жыцця, а Маці Божая штодзённа ўзносіць нашыя малітвы за Вас да Божага трону.

*З удзячнасцю, парафіяне са Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Шэмету**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, стойкасці ў душпастырскай паслузе, апекі Панны Марыі, дароў Святога Духа. Няхай Бог пранікне ў глыбіню Вашага сэрца, прынясе радасць і супакой. Дзякуем за добрае сэрца і любоў да нас.

*Малітоўныя групы МБ Супакою і Рыцарства св. Міхала Арханёла, Гродна-Аўгустовак*

**Паважаны Айцец Пробашч Валерый Шэйгерэвіч!**

Віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем дароў Духа Святога, здароўя, доўгіх гадоў жыцця. Няхай Езус і Маці Божая апекуюцца Вамі і штодзённа адорваюць радасцю, а міласэрны Бог бласлаўляе праз усё жыццё. Дзякуем за Вашы малітвы, душпастырскую працу, добраўпарадкаванне тэрыторыі пры касцёле, клопат аб людзях, а Вашай маме – за добрага сына святара.

*Вернікі з парафіі Поразава*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Леон Лішык!**

Віншуем Вас з Імянінамі і юбілейным Днём нараджэння. Перасылаем самыя сардэчныя віншаванні: шмат сіл і нязгаснага запалу ў службе Богу і людзям, шчодрых Божых ласкаў, апекі Маці Божай Няспыннай Дапамогі, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця. Няхай добрае і чулае сэрца будзе перапоўнена радасцю, любоўю і верай, а сіла Божага слова дапамагае быць мудрым правадніком на дарозе сапраўднага дабра сярод розных сумненняў і спакус.

*Былыя парафіяне касцёла св. Міхала з Нецечы сем’і Гурскіх, Нацэвіч і Рахатка*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Кудэрку**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці, святла Духа Святога і нястомнай апекі Марыі Панны. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а выконваемая праца прыносіць радасць і бласлаўлёны плён.

*Малітоўныя групы МБ Супакою і Рыцарства св. Міхала Арханёла, Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Ханько**

з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і бласлаўлёны, побач будуць зычлівыя людзі, Дух Святы пранікае ў глыбіню Вашага добрага, чулага і адкрытага сэрца. Радасці, усмешкі, стойкасці ў святарскай паслузе. Дзякуем Вам за распалены агонь веры і адданую паслугу на карысць Богу і людзям. Шчасці Божа!

*Сем’і Крывіцкіх, Яновіч і Пашэнка з Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем: няхай Бог адорыць Цябе здароўем, сілай і радасцю. Няхай Езус Хрыстус апекуецца Табою і прытуляе да свайго сэрца, Дух Святы ўзмацняе душу і цела, Маці Божая ніколі не пакідае, а святы Заступнік нястомна дапамагае ў кожны дзень жыцця.

*Мама, брат Дзмітрый і брат Генадзь з сям’ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Жывалеўскаму**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усяго самага найлепшага: моцнага здароўя, штодзённай радасці, душэўнага супакою, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама добразычлівых людзей на жыццёвым шляху і поспехаў у душпастырскай працы. Няхай Маці Божая і святы Заступнік апекуюцца Табою кожны дзень, а ўсемагутны Бог шчодра бласлаўляе.

*Мама, браты і сёстры*

**Паважаны Ксёндз Віктар Субель!**

З нагоды Дня нараджэння складаем букет шчырых пажаданняў. Няхай Пан Езус блаславіць кожны дзень жыцця, адорыць моцным здароўем, цеплынёй, любоўю і радасцю. Няхай годна перажываюцца ўсе цяжкасці, а служба Богу і людзям прыносіць задавальненне і шчодры плён. Маці Божая няхай ахінае сваёй мацярынскай апекай, а Дух Святы ўдзяляе неабходныя ласкі і дары. Цярплівасці, сіл, вытрымкі. Дзякуем за добрае шчырае сэрца, мудрыя павучанні і цудоўны прыклад веры.

*Парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважанаму Айцу Раману Цесляку**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Жадаем святла і моцы Духа Святога. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі на доўгія гады, смутак няхай абмінае, а жыццё плыве ў радасці. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Парэчча*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Пецюну**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, радасці, дабрабыту. Няхай Маці Божая ахінае Вас мацярынскай апекай, Пан Езус бароніць ад няшчасцяў, а Дух Святы шчодра адорвае ўсімі патрэбнымі ласкамі. Шчасці Божа!

*Ружанцовае кола, Пагародна*

**Паважаны Ксёндз Віктар Субель!**

Мы Вам шчыра
ўдзячны за тое,
Што выхоўвалі ў веры
з дзяцінства.
Сёння плён Вашай
працы штодзённай
На Божай ніве каласіцца.
Хай пачуе Пан Бог
малітвы,
Просьбы нашы
прыме ў нябёсах,
І ўдзеліць Ксяндзу
дарагому
Шмат здароўя,
шчаслівага лёсу.
Хай Пан Езус бароніць
нястомна
І вядзе па дарозе абранай,
А Яго Найсвяцейшая Маці
Апекуецца і дапамагае.
Шчасці Божа!

*Касцёльны камітэт, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з касцёла Святой Тройцы ў Сурвілішках*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. (8 0**152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1123; тыраж 4970; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная